# наша свабода

№16(243) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

11 ЛЮТАГА 2002 году
ПАНЯДЗЕЛАК

Адрас: 220123, г.Мінск, а/с 103

тэл. 284-36-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by

http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ


ВЕСТКІ



## Наканаваная дарагоўля

Тарыфы на перавозку пасажыраў па Беларускай чыгунцы будуць падвышацца. Пра гэта заявіў новы кіраўнік БЧ Васіль Гапееў. Цяпер насельніцтва аплачвае 24% сабекошту праезду электрычкамі і цягнікамі, плануецца гэтую лічбу давесці да 35%. Мусяць даражэць, як даводзіць кіраўніцтва адпаведнага міністэрства, і паслугі сувязі. Цікава, што месяц таму Аляксандр Лукашэнка запатрабаваў, каб гэтага не адбывалася.

## Амністыя для Клімава

Беларускі Хельсінкскі Камітэт звярнуўся да начальніка калоніі, дзе адбывае зняволенне Андрэй Клімаў, з просьбай накіраваць у суд матэрыялы пра магчымасць датэрміновага вызвалення яго ад пакарання. 11 лютага 2002 году споўніцца 4 гады з 6, якія Клімаў мусіць сядзець за кратамі.

## Школьнікі будуць вучыцца да чэрвеня

Паводле міністра адукацыі Пятра Брыгадзіна, у звязку з пераходам на 5-дзённы тыдзень навучальны год у агульнаадукацыйных школах плануецца падоўжыць да чэрвеня. Апрача таго, міністр паведаміў, што захавацца норма паступлення абітурыентаў у розныя вышэйшыя навучальныя ўстановы аднačасова і 10-бальная сістэма ацэнкі іх ведаў.

## Адстаём па росце ВУП

Рост валавога ўнутранага прадукту Беларусі ў 2001 годзе аказаўся самым нізкім сярод краін СНД. Ён склаў 4,1%. Самы вялікі рост летась назіраўся ў Казахстане – на 13,2%, далей ідуць Таджыкістан (10,2%), Азербайджан (9,9%), Арменія (9,6%), Украіна (9%). У сярэднім па краінах СНД ВУП у 2001 годзе вырас на 6% (у 2000 годзе – на 8%).

## Цыгарэты ад «ілжэпрадпрымальнікаў»

Са словаў міністра гандлю Беларусі Аляксандра Кулічкова, да 80% імпартных тытунёвых вырабаў прадалі ў нашай краіне «ілжэпрадпрымальніцкія структуры». Напрыклад, у Мінску летась колькасць тытунёвых вырабаў, прададзеных праз арганізаваны гандаль, зменшылася ў параўнанні з папярэднім годам удвая.

## «Армія гультаёў» супраць Лукашэнкі

300 вызваленых работнікаў прафсаюзу аўтамабільнага і сельскагаспадарчага машынабудавання (АСМ) падаюць у Цэнтральны суд Мінску іск да Аляксандра Лукашэнкі аб абароне гонару і годнасці. Пра рашэнне прэзідыуму САМ судзіцца з кіраўніком Беларусі 9 лютага паведаміў старшыня прафсаюзу Аляксандр Бухвостаў.

Нагадаем, што 1 лютага, у часе зацвярджэння кіраўнікоў мясцовай «вертыкалі», А.Лукашэнка падтрымаў урадавую пастанову № 1804 «Аб мерах па абароне правоў членаў прафсаюзаў», якой зліквідаваная сістэма безнаяўнага пералічэння прафсаюзных узносаў праз бухгалтэрыі прадпрыемстваў. «Мы больш узносы збіраць не будзем, і гэта жорсткая і рашучая пазіцыя, якая мной падтрымліваецца. А так яны дэмакраты, а прымушаюць Лукашэнку выбіваць з рабочых грошы... Яны правялі перадвыбарную кампанію на грошы Захаду і складкі рабочых, а зараз плачуцца, што ў іх няма грошай. Дык у нас рабочыя самі сябе некаторыя пракарміць не могуць, а то яшчэ гэтую армію гультаёў будуць карміць», – заявіў А.Лукашэнка.

Апарат прафсаюзу АСМ лічаць абразай для сябе выказванне «армія гультаёў» з вуснаў першага чыноўніка краіны, і будзе прасіць суд прызначыць кампенсацыю маральнага ўрону.

**Рыгор БУЯН**

## Вольга Корбут не трымала падробак

Днямі прайшла інфармацыя, што прадстаўнікі амерыканскай Сакрэтнай службы ў Атланце паведамілі, нібыта ў былым доме вядомай гімнасткі знайшлі 30 тысяч падробных даляраў.

Але па словах агента сакрэтнай службы, «яна былая ўладальніца гэтага дому, і гэта адзінае, што замешвае Корбут у гэтую справу». Сама Корбут да таго часу даўно ўжо не з'яўлялася ў гэтым доме. Яе менеджэр заявіў, што яна згодная прайсці тэст на дэтэктары хлусні, каб давесці сваю невінаватасць.

**Вера САСНАВЕЦ**

# Першая унцыя добрых эмоцый




*Снежная бура, што замятала апошнімі днямі Солт-Лэйк-Сіці, сусветную сталіцу мармонаў і месца правядзення сёлетніх зімовых Алімпійскіх гульняў, пад самае адкрыццё Алімпіяды ўсё ж аціхла. Прырода злітавалася, і цырымонія адкрыцця Алімпіяды прайшла пры больш-менш спакойным надвор'і. Праўда, быў момант, калі ўжо запалены алімпійскі агонь ад моцнага парыву ветру ледзьве не згас, але абыйшлося. Алімпіяда стартавала!*

На цэнтральным стадыёне Райс-Эклс за цырымоніяй адкрыцця Алімпіяды назіралі каля 60 тыс. гледачоў. Пасля таго як сціхлі гукі ваеннага аркестру, на стадыён падняліся прэзідэнт ЗША Джордж Буш, прэзідэнт МАК Жак Рагге і кіраўнік Аргкамітэту цяперашніх спаборніцтваў Міт Ромні. За імі выйшлі восем амерыканскіх спартсменаў, у руках якіх быў разарваны амерыканскі сцяг, знойдзены на руінах Сусветнага гандлёвага цэнтру. Шквал апладысментаў змяніўся магільным маўчаннем. На вачах Дж.Буша паказаліся слёзы.

Нарэшце пачалося тэатралізаванае шоу. Яго цэнтральнай тэмай стала ідэя аб'яднання ўсяго цывілізаванага свету ў барацьбе з пагрозай тэрарызму. Галоўную ролю ў ім выконваў 12-гадовы школьнік з Солт-Лэйк-Сіці Раен Сенбарн. Яго персанаж, названы пастаноўшчыкамі Дзіця Святла, мусіў змагацца з варожай стыхіяй. У гэтым яму дапамагаў маленькі ліхтарык, які натхняў героя на далейшы шлях. Калі на сцэну выбеглі сотні іншых дзяцей, знясілены хлопчык перадаў ім свой агонь – у гэты момант, як задумаў рэжысёр, гледачы павінны былі забыцца на холад (тэмпература ў Солт-Лэйк-Сіці была каля нуля).

Згодна са старажытнай традыцыяй, парад удзельнікаў адкрыла каманда Грэцыі – краіны, якая падаравала свету Алімпійскія гульні. Зборная ЗША ішла апошняй, яе сцяг несла майстар па шорт-трэку Эмі Петэрсан.

У парадзе ўзялі ўдзел больш за 2,5 тыс. спартсменаў з 80 краінаў. Па выпадковым збегу абставінаў, столькі ж краін апладвалі сваіх грамадзян, якія загінулі 11 верасня.

Пасля таго як спартсмены ўладкаваліся на сваіх месцах, прадстаўленне прадоўжылася. На стадыёне з'явіліся прадстаўнікі пяці народнасцяў штату Юта, якія сімвалізавалі пяць кантынентаў, што бяруць удзел у Алімпійскіх гульнях. Яны з'явіліся на пяці агромністых барабанах, выконваючы свае традыцыйныя танцы. Пасля гэтага перад гледачамі прайшлі карціны гісторыі амерыканскага Захаду – краіны каўбояў і рамантыкаў.

Стоячы ў атачэнні школьнікаў, Дж.Буш афіцыйна адкрыў Гульні. На стадыёне з'явіўся алімпійскі сцяг.

*Заканчэнне на стар.3*




# На МТЗ чакаюцца масавыя звальненні

Мінулым тыднем чуткі пра масавыя звальненні на Мінскім трактарным заводзе пачалі ўвасабляцца ў рэальнасць. Выканаўца абавязкаў генеральнага дырэктара МТЗ Леанід Крупец выдаў загад «Аб аптымізацыі працоўных рэзерваў і эканоміі рэзерву заробкаў», паводле якога пад скарачэнне патрапілі пасады па сумяшчальніцтве. Гэта значыць, цягам 60 дзён прыкладна на 5% мае паменшыцца колькасць сумешчаных пасадаў, а таксама вакансіяў. У перспектыве – і такія планы знаходзяцца на «стадыі аналізу» – 10-працэнтнае скарачэнне трактарабудаўнікоў.

Пра гэта паведаміў старшыня прафкаму аўтамабільнага і сельскагаспадарчага машынабудавання на МТЗ Аляксандр Карцаў. Паводле прафсаюзнага кіраўніка, в.а. дырэктара падпісаў «рамачны загад, які цалкам адпавядае калектыўнаму дагавору» на прадпрыемстве. Што да скарачэння 10% рабочых трактарнага заводу, то, паводле А.Карцава, «такога загаду пакуль няма – напачатку мусіць быць праведзены аналіз сітуацыі». Аднак Аляксандр Карцаў заяўляе, што, найперш, усе запланаваныя скарачэнні мусяць узгадняцца з прафкамам АСМ, а па-другое, «пакуль усе адміністрацыйныя меры вычарпаныя не будуць» – датуль казаць пра скарачэнне 10% рабочых няма сэнсу.

Між тым, 8 лютага намеснік гендырэктара МТЗ Мікалай Стукач фактычна пацвердзіў, што рашэнне аб 10-працэнтным скарачэнні рабочых завода прынятае. «Гэта прыкладна 1 900 чалавек, якія працуюць на Мінскім трактарным заводзе. У першую чаргу будуць скарочаныя вакансіі. У другую чаргу скарачэнне закране тых, хто мае хоць невялічкую сацыяльную абарону. Напрыклад, ёсць пенсіянеры, што працягваюць працаваць. А далей пойдуць скарачэнні, як кажуць, па жывому», – заявіў М.Стукач.

**Рыгор БУЯН**

НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА




Крыніца: www.gismeteo.ru

**Курс наяўнага даляра на «чорным рынку» 1680**

## Здалі літоўца

Беларускія спецслужбы затрымалі і перадалі супрацоўнікам расійскіх праваахоўных органаў літоўскага кантрабандыста Енаса Скрыпкюнаса, які знаходзіўся ў міжнародным вышуку па падазрэнні ў кантрабандзе культурных каштоўнасцяў. Пра гэта паведаміла Смаленскае ўпраўленне Федэральнай службы бяспекі Расіі. Цэнтр інфармацыі і грамадскіх сувязей Камітэту дзяржаўнай бяспекі Беларусі, як было заяўлена БелаПАНу, такой інфармацыяй не валодае.

У 1999 годзе грамадзяніна Літвы Енаса Скрыпкюнаса абвясцілі ў Расіі спачатку ў федэральны, а затым і ў міжнародны вышук. Яго падазравалі ў спробе незаконнага вывазу за межы Расіі праз Смаленскую вобласць культурных каштоўнасцяў на суму звыш 1 мільёна рублёў. У 1999 годзе Ё.Скрыпкюнаса разам з саўдзельнікамі затрымалі смаленскія памежнікі. У яго аўтамабілі знайшлі дзве схованкі, у якіх былі абразы XIX стагоддзя, ордэны і медалі з узнагароднымі дакументамі. Сярод іх нават знайшлі Зорку Героя Савецкага Саюзу. Двух спадарожнікаў літоўскага кантрабандыста затрымалі, а вось самаго Ё.Скрыпкюнаса выпусцілі пад заклад 5 000 даляраў і падпіску аб нявыездзе. Аднак як толькі ён выйшаў на свабоду, тут жа знік.

Як высветлілася, абразы Ё.Скрыпкюнас вывозіў у Германію, дзе прадаваў прыватным калекцыянерам. Да 2001 году літоўскага кантрабандыста шукалі ўжо аператыўнікі Смаленску, Масквы, Санкт-Пецярбургу і беларускага КДБ. Нягледзячы на гэта, на пачатку лютага кантрабандыст рашыўся прыехаць пад сваім імем і на ўласным аўтамабілі на тэрыторыю Беларусі, дзе і быў затрыманы. Зараз ён утрымліваецца ў ізалятары смаленскага УФСБ. У найбліжэйшым месяцы следства па іх справе будзе завершана і перададзена ў суд.

Спецыяльна наконт дакладнага ўзаемадзеяння беларускіх і смаленскіх контрразведчыкаў выказаўся кіраўнік смаленскага УФСБ генерал Віктар Маслаў. Паводле яго словаў, «беларускія калегі працуюць больш чым добрасумленна, з поўным разуменнем важнасці задач, якія імі выконваюцца».

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ**

## Грып абвяшчае вакацыі

З 8 лютага ў 50 сярэдніх школах Гомелю на падставе распараджэння галоўнага санітарнага лекара гораду аб'яўлены нечарговыя канікулы. У школьныя класы прыйшла эпідэмія грыпу. Дзеці сталі хварэць у 6 разоў болей, чым звычайна.

Яшчэ 23 школы ад вірусаў грыпу пакуль бароняцца. Наколькі надзейнай будзе гэтая абарона, пакажуць найбліжэйшыя дні. Акурат на другую дэкаду лютага ў горадзе прыпадае пік вострых рэспіраторных захворванняў.

Сёлета санітарная служба да дадатковых непрадбачаных вакацыяў падышла так: перавышае ў вучэльні ўзровень захворванняў так званую эпідэмічную рысу – дзеці адпраўляюцца дахаты, а не – вучачца.

Каранцінныя мерапрыемствы ў горадзе над Сожам пачалі ўводзіць яшчэ 5 лютага. У гэты час у горадзе пачалі штодня захворваць на грып да 10 тысяч чалавек, з іх каля палова – дзеці. Гарадскія школы пратрымаліся ў гэтай сітуацыі толькі тры дні.

**Анатоль ІВАНОЎСКІ**

## Карткі ахопліваюць Беларусь

Вынікі рэалізацыі Праграмы паэтапнага ўводу сістэмы безнаяўных разлікаў з выкарыстаннем банкаўскіх пластыкавых картак на тэрыторыі Беларусі прааналізаваны праўленнем Нацбанку.

Як паведамілі БелаПАНу ва ўпраўленні інфармацыі галоўнага банку краіны, цяпер у абарачэнні знаходзяцца 196 343 карткі розных сістэм – гэта ў 4,5 раза больш, чым было два гады таму. Агульная колькасць пунктаў выдачы гатоўкі павялічылася ў два разы. На 182 – альбо ў 3,8 раза – вырасла колькасць банкаматаў. Сетка абслугоўвання банкаўскіх пластыкавых картак ахоплівае Мінск, усе абласныя цэнтры, а таксама Маладзечна, Барысаў, Баранавічы, Ліду, Бабруйск, Жлобін, Салігорск ды іншыя гарады.

Кіраўніцтва Нацбанку лічыць неабходным больш інтэнсіўна ўводзіць электронныя грошы. Мяркуецца стварыць пры Мінгарвыканкаме і аблвыканкамах сталыя працоўныя групы. У іх функцыі будзе ўваходзіць каардынацыя дзеянняў усіх зацікаўленых асобаў па рэалізацыі рэгіянальных праграм, у тым ліку паэтапнае ўвядзенне на прадпрыемствах гандлю, сувязі і сферы паслуг плацёжных тэрміналаў і абавязковае забеспячэнне імі новаадкрытых буйных прадпрыемстваў, усталяванне банкаматаў, пераход рэгіянальных прадпрыемстваў на выплату зарплаты з выкарыстаннем банкаўскіх пластыкавых картак. У другім квартале гэтага году плануецца завяршыць працу па стварэнні прадпрыемства «Нацыянальны працэсінгавы цэнтр».

**Аляксей АРЭШКА**

## Наезд на сталёвых коней прыватнікаў

Ніводнага раёну Беларусі не абміне распачаты зараз кантроль і ўлік тэхнічнага стану сельскагаспадарчай тэхнікі, якая знаходзіцца ў прыватнай уласнасці насельніцтва. На абавязковым вясновым тэхаглядзе ўжо мала будзе прад'явіць квітанцыю аб аплаце дарожнага збору, страхоўкі і паслугаў ДАІ. Ад кожнага гаспадара трактара і грузавога аўтамабіля міліцыя запатрабуе касавыя дакументы на гаруча-змазачныя матэрыялы, набытыя падчас эксплуатацыі мінулым годам, а таксама на замененыя пры рамонце агрэгаты і вузлы. Гэтыя «пракурорскія» функцыі дадаткова навязаныя службам дарожнай бяспекі адмысловымі распараджэннямі абласных выканаўчых камітэтаў.

Галоўныя тлумачэнні ад улады наконт відавочна штрафной кампаніі супраць уладальнікаў сталёвай сілы грунтуюцца на нібыта крымінальных маштабах вывазу паліва і запчастак з калгасных мехдвароў на фермерскія і прыватныя. Прыкладам, правяраючы Шумілінскі раён на Віцебшчыне, камісіі дзяржкантролю налічылі ў тамтэйшых вяскоўцаў 237 колавых трактароў. Затым «разведчыкі» эканомнага ўліку прыкінулі, што адзін прыватны трактар працуе ў сярэднім 30 дзён у год, спальваючы адну тону дызпаліва. Наступная арыфметыка прыпісвае ўсім вольным шумілінскім аратым 240 тон паліва, нібыта выкарыстанага ў 2001 годзе. Маніпулюючы голымі лічбамі ў межах усёй Беларусі, кантралёры даводзяць, што трактарны парк фермерскіх і прыватных гаспадарак з'ядае 94 000 тон дызпаліва. Пры гэтым бярэцца пад сумнеў законнасць яго набыцця, што развязвае рукі дзяржструктурам на адміністрацыйны ўціск прыватных уладальнікаў сельгастэхнікі ў выглядзе новых грашовых збораў і штрафаў.

**Галіна БАРАВАЯ**

## Барысаў у «адключцы»

У выніку аварыі, што адбылася 7 лютага, без электра- і водазабеспячэння засталася цэнтральная частка гораду Барысава (Мінская вобласць).

Прычынай аварыі на падстанцыі, размешчанай у цэнтры Барысава, стала кароткае замыканне кабельнай муфты. Каля 16 гадзін ад электразабеспячэння аказалася адключанай большасць спажыўцоў цэнтральнай часткі Барысава, у тым ліку інструментальны і кансервавы заводы, гарадскі радзільны дом, бальніца і палац культуры, дом дзіцяці, сярэдняя школа, медвучылішча, аддзяленне ААТ «Беларусбанк», прадпрыемства «Барысаўводаканал», а таксама жылыя дамы і прыватны сектар.

З-за аварыйнага адключэння камунальных сістэм ад электразабеспячэння ў горадзе была спынена падача вады спажыўцам.

**Дзмітрый БЕЛЬСКІ**

## Беларуская філармонія – у Вільні

У Вільні, у Вялікай зале Літоўскай акадэміі музыкі, на гэтым тыдні адбыўся арганізаваны пасольствам Беларусі ў Літве канцэрт лаўрэатаў рэспубліканскіх і міжнародных конкурсаў салісткі Беларускай дзяржаўнай філармоніі Ніны Цішко і канцэртмайстра Таццяны Вішняковай. У канцэртную праграму, якая прадстаўляла розныя музычныя жанры, увайшлі папулярныя творы вядомых беларускіх кампазітараў Юрыя Семянякі і Ігара Лучанка.

**БелаПАН**

## Працаваць стала трохі больш бяспечна

У 2001 годзе ў Беларусі ў выніку няшчасных выпадкаў на вытворчасці загінула 239 чалавек, а атрымалі траўмы з цяжкім зыходам 657 работнікаў.

У параўнанні з 2000 годам гэтыя паказчыкі знізіліся на 19 і 37 выпадкаў адпаведна. Разам з тым стан умоў і аховы працы застаецца вострай сацыяльнай праблемай. Гэта выклікана нездавальняючым тэхнічным станам асноўных вытворчых фондаў і невыкананнем патрабаванняў бяспекі працы пры эксплуатацыі абсталявання. Так, у мінулым годзе ў выніку праверак выканання заканадаўства аб працы і правілаў аховы працы дзяржаўная інспекцыя выявіла 320 тысяч парушэнняў больш як у 22,7 тысячы арганізацый. На гэтых падставах забаранялася і прыпынялася праца 86 цэхаў, 710 вытворчых участкаў, а таксама звыш 20 тысяч адзінак рознага вытворчага абсталявання. Акрамя таго, да адміністрацыйнай адказнасці ў выглядзе штрафу прыцягнулі каля 9 тысяч службовых асобаў, а да шасці тысяч наймальнікаў ужылі эканамічныя санкцыі.

**Вольга АСІПЕНКА**

## Коласаўская вечарына ў Лондане

Надзвычайны і паўнамоцны пасол Рэспублікі Беларусь у Вялікабрытаніі Валерый Садоха ўзяў удзел у вечарыне, прысвечанай 120-й гадавіне з дня нараджэння класіка беларускай літаратуры Якуба Коласа. Мерапрыемства, якое прайшло на гэтым тыдні, было арганізавана Англійска-беларускім таварыствам пры ўдзеле беларускага дыпламатычнага прадстаўніцтва ў Вялікабрытаніі.

На вечарыне выступілі кіраўнікі бібліятэкі імя Францыска Скарыны ў Лондане, сваякі паэта, чыталіся ўрыўкі з паэмы «Новая зямля» ў перакладзе паэткі Веры Рыч. Прайшоў невялікі канцэрт, у якім узялі ўдзел беларускія дзеці, што знаходзяцца ў Вялікабрытаніі па лініі няўрадавай арганізацыі «Сакавік».

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ, БелаПАН**

## Супертрамвай у Мінску



У Мінску праводзяцца выпрабаванні новага айчыннага трохсекцыйнага трамвая, разлічанага на 302 пасажыры.

Як паведаміў БелаПАНу генеральны дырэктар унітарнага прадпрыемства «Белкамунмаш» Іван Сафонаў, эксперыментальны ўзор новай машыны другі месяц праходзіць выпрабаванні на ўсіх лініях сталічнага трамвая. «Мы правяраем не толькі яго хадавыя якасці, але і стан трамвайных пуцей Мінску. Дзякуючы ўвазе гарадскіх уладаў яны адпавядаюць патрабаванням, якія прад'яўляе да іх сучасная тэхніка», – сказаў Сафонаў. Паводле яго словаў, новая мадэль адметная цудоўным дызайнам. Разам з тым у новай, менш энергаёмістай машыне значна зніжаны ўзровень шуму, дзейнічае электронная сістэма кіравання, створаны камфартабельныя ўмовы для кіроўцы і пасажыраў. Напрыклад, нізкі ўзровень падлогі стварае дадатковыя зручнасці пры ўваходзе і выхадзе людзей.

«Новая мадэль трамвая амаль на 85% выраблена з айчынных матэрыялаў, дэталяў і вузлоў. Мы ўпэўнены, што наша машына, якая каштуе танней за аналагічныя замежныя маркі, знойдзе пакупнікоў як у Беларусі, гэтак і за яе межамі», – сказаў дырэктар прадпрыемства.

Паводле яго словаў, мадэль 743 пакуль не мае назвы. «Яна павінна быць вельмі кароткай і сімвалізаваць беларускае паходжанне новай машыны», – сказаў Сафонаў. Паводле яго словаў, пераможца конкурсу на лепшую назву новага трамвая будзе адзначаны спецыяльным прызам прадпрыемства.

«Белкамунмаш» пачаў выпускаць айчынныя тралейбусы ў 1992 годзе, а трамваі – у 1999 годзе. Усяго за 10 гадоў завод вырабіў каля 800 тралейбусаў і 6 трамваяў. Прычым прыкладна 300 тралейбусаў экспартавана ў Казахстан, Латвію, Манголію і Расію. У Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі вядзецца падрыхтоўка айчынных інжынераў па вытворчасці гарадскога электратранспарту.

**Марат ГАРАВЫ**

## Маладыя ахвяры Чарнобыля

Атрыманы звесткі пра стан здароўя дзяцей, якія знаходзіліся на пацярпелых тэрыторыях у момант Чарнобыльскай аварыі ў чэраве маці. Гэта зроблена ў лабараторыі аналізу стану здароўя і медыцынскай дапамогі насельніцтву Беларускага цэнтру медыцынскіх тэхналогій, інфарматыкі, кіравання і эканомікі аховы здароўя. Маці гэтых дзяцей жылі ў раёнах, забруджаных радыенуклідамі цэзію на ўзроўні звыш 555 бекерэляў на метр квадратны.

Цяперашнім часам правераны звесткі медыцынскіх аглядаў гэтых дзяцей за 1997-1999 гады. У 1999 годзе 1-я група здароўя (практычна здаровыя) была ў 14,1% дзяцей, 2-я група (схільныя да частых вострых захворванняў) – у 48%, а 3-я група (хранічная паталогія) – у 37,7%. Першаснае захворванне гэтых дзяцей вышэйшае, чым па краіне ў цэлым, па большасці класаў хвароб. Найвышэйшы ўзровень захворванняў (у 3 разы вышэй, чым у цэлым па краіне) быў зафіксаваны па хваробах эндакрыннай сістэмы, крыві і крыватворных органаў, сістэмы кровазвароту. Найслабейшым органам пасля апраменення ў чэраве маці аказалася шчытападобная залоза (анамаліі сустракаюцца ў тры разы часцей, чым у астатняга насельніцтва), а найбольш схільная да зменаў пры апраменненні – цэнтральная нервовая сістэма. У даследаванай групе дзяцей анамаліі нервовай сістэмы і галаўнога мозгу склалі 14% ад усіх выяўленых прыроджаных парокаў развіцця, у цэлым жа па краіне гэтая лічба роўная 3%.

Леанід Ломаць, загадчык лабараторыі, прагназуе, што хуткім часам статыстыка стану здароўя гэтых дзяцей можа істотна змяніцца. Так, юнакі ўжо ўступаюць у дапрызыўны век (у 2002 годзе большасці з іх споўніцца 16 гадоў), у сувязі з чым пачынаюць праходзіць паглыбленыя абследаванні здароўя для вызначэння гатоўнасці да службы ў войску. У гэты час звычайна выяўляюцца многія хваробы, якія працякаюць схавана.

**Святлана НЯСТРАХАВА**

# Першая унцыя добрых эмоцый

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*




Яго ў ліку іншых неслі Лех Валенса, Стывен Спілберг, Жан Мішэль Кусто і Эндзі Фрымен. Следам за падняццем сцяга пачалася кампазіцыя *«Fragile»*, якую выканалі Стынг і Йо-Йо-Ма.

Тым часам факел з алімпійскім агнём быў ужо на падыходзе. Гонар запаліць полымя ў чашы, усталяванай на стадыёне на вышыні 36 метраў, быў дадзены капітану хакейнай зборнай ЗША – алімпійскаму чэмпіёну 1980 г. Майклу Эруз'ёну. У апошнія хвіліны ўрачыстай цырымоніі пад музыку Бетховена Солт-Лэйк-Сіці асвятліў феерычны феерверк.

Першы дзень Алімпіяды для беларусаў выдаўся досыць удалым, хоць медалёў нашыя спартоўцы не ўзялі. Праўда, шанец на іх быў. Колішняя расіянка Святлана Нагейкіна, якая перад самымі Алімпійскімі гульнямі атрымала мажлівасць выступаць за беларускую зборную, у лыжнай гонцы на 15 кіламетраў сярод жанчын заняла пачэснае 6-е месца. Яшчэ за 300 метраў да фінішу яна прэтэндавала на бронзавы медаль, але нечакана ўпала і страціла каштоўныя секунды. Будзем спадзявацца, што на наступных гонках Нагейкіна здзейсніць свой намер узяць у Солт-Лэйк-Сіці алімпійскую ўзнагароду.

Няблага выступіў і яшчэ адзін наш лыжнік, Сяргей Далідовіч, які заняў 15-е месца на мужчынскай дыстанцыі 30 км.

Удалы зачын зрабіла сваім выступам і хакейная зборная Беларусі. У першым матчы кваліфікацыйнага турніру нашыя хакеісты перамаглі ўкраінцаў. Матч быў надзвычай упарты, файна глядзеліся ў брамках галкіперы абедзвюх каманд, і ў выніку лік гульні атрымаўся футбольны – 1:0 на нашую карысць. Адзіную шайбу ў трэцім перыядзе закінуў Алег Мікульчык. Сапернікі беларусаў па групе, французы і швейцарцы, згулялі ўнічыю 3:3. Такім чынам, зборная Беларусі займае пакуль у сваёй групе першае месца. Хай бы на ім нашыя хлопцы і завершылі кваліфікацыю да асноўнай сеткі алімпійскага турніру. Але дзеля гэтага нашыя хакеісты павінны пазбавіцца старой «хваробы» – мізэрнага працэнту рэалізацыі галявых момантаў. У другой кваліфікацыйнай групе немцы сенсацыйна перайгралі славакаў, а латышы адолелі аўстрыйцаў.

Пачатак Алімпіяды прынёс беларусам порцыю добрых эмоцыяў. Хочацца верыць – будзе дабаўка, і не адна. Дачакаймася тых жа біятлону і фрыстайлу! Радасная навіна для беларускіх аматараў спорту ўжо ёсць – бронзавы прызёр Нагана фрыстайліст Зміцер Дашчынскі, які атрымаў на пачатку лютага траўму – закрыты пералом ключыцы, усё-такі выступіць на Алімпіядзе.

**Мяфод ШАЙБІН**

# Грамада рыхтуецца да «гарачай вясны»

Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Народная Грамада) збіраецца арганізаваць масавыя выступленні ў гонар восьмай гадавіны Дня Канстытуцыі – 15 сакавіка, якімі распачнецца кампанія «Гарачая вясна-2002». Рашэнне падаваць заяўку ў Мінгарвыканкам прыняло Выканаўчае бюро Грамады 9 лютага. Па задуме арганізатараў, 15 сакавіка мусіць прайсці «дэманстрацыя з патрабаваннем да ўладаў забяспечыць выкананне гарантаваных Канстытуцыяй сацыяльна-эканамічных правоў грамадзянаў Беларусі на годнае і заможнае жыццё». Пачаць акцыю плануецца ў 17.30 на плошчы Якуба Коласа, якую цяпер рэстаўруюць. Кіраўніцтва Грамады спадзяецца на актыўную падтрымку акцыі з боку калегаў па Канфедэрацыі «За сацыяльныя перамены» – Беларускай партыі працы і Партыі камуністаў Беларускай. Аднак з салідарнасцю могуць узнікнуць пэўныя праблемы. Бо Грамада, паабяцаўшы падтрымаць пікет у абарону сацыяльна-эканамічных правоў грамадзянаў 31 студзеня, праігнаравала акцыю, арганізаваную ПКБ.

**Рыгор БУЯН**

# Сумесная праграма дзеянняў

Падчас двухдзённага – 7-8 лютага – візіту ў Кіеў дэлегацыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (НАНБ) беларускія і ўкраінскія вучоныя ўзгаднілі пазіцыі па вырашэнню агульных для дзвюх краін экалагічных і народнагаспадарчых праблем. У першую чаргу гэта тычыцца пытанняў ліквідацыі наступстваў катастрофы на ЧАЭС, экалагічных праблем Палесся і сумеснага выкарыстання агульных водных рэсурсаў. У інтэрв'ю БелаПАН віцэ-прэзідэнт НАНБ акадэмік Пётр Віцязь заявіў, што «зараз справа за ўрадамі краін», якія «павінны прыняць адпаведныя рашэнні на дзяржаўным узроўні».

У Кіеве падпісаны дагавор аб супрацоўніцтве і пратакол аб намерах паміж нацыянальнымі акадэміямі Беларусі і Украіны. «У нас даўнія і моцныя сувязі з украінскімі калегамі», – падкрэсліў Віцязь. Вучоныя дамовіліся аб выкананні сумесных праектаў, прадугледзелі правядзенне навуковых канферэнцый, абмен стажыроўкамі, навуковай інфармацыяй. Паводле слоў акадэміка Віцязя, у дадатку да дагавора «дакладна распісана, якія навуковыя праекты будуць вы-



конвацца і кім».

Што тычыцца фінансавання сумесных праграм, то, як зазначыў Пётр Віцязь, Беларусь і Украіна «самастойна фінансуюць свае навуковыя ўстановы», але вынікі даследаванняў «будуць агульныя».

**Юрый КАСЬЯНАЎ**

# На працэсе па справе «групы Ігнатовіча» завяршылася судовае следства

На закрытым працэсе па справе групы былога афіцэра спецпадраздзялення МУС Беларусі «Алмаз» Валерыя Ігнатовіча завяршылася судовае следства. Гэтую крымінальную справу разглядае Мінскі абласны суд. Група з чатырох чалавек абвінавачваецца ў шэрагу цяжкіх злачынстваў – забойстваў, выкраданні людзей, рабунку і вымагальніцтве. Валерый Ігнатовіч і Максім Малік – таксама былы супрацоўнік «Алмаза» – абвінавачваюцца, у прыватнасці, у выкраданні аператара *ОРТ* Дзмітрыя Завадскага.

Як стала вядома БелаПАНу з інфармаваных крыніц, 7-8 лютага суд разгледзеў шэраг хадайніцтваў. Напрыклад, адзін з прадстаўнікоў пацярпелага боку заявіў хадайніцтва пра выклік для допыту ў суд панятых, якія прысутнічалі пры канфіскацыі кнігі выдачы і прыёму зброі і боепрыпасаў асабоваму складу мінскага следчага ізалятара № 1. Неабходнасць гэтага была аргументавана тым, што некаторыя дакументы, якія першапачаткова былі ў крымінальнай справе па факце знікнення Дзмітрыя Завадскага, у матэрыялах, што паступілі ў суд, адсутнічаюць. Сярод такіх дакументаў – рапарты начальніка следчага ізалятара Алега Алкаева і начальніка крымінальнай міліцыі МУС Мікалая Лапаціка, пратаколы выняткі кнігі выдачы зброі, а таксама ліст генеральнага пракурора Беларусі да расійскіх калег з просьбай даслаць у Беларусь спецапаратуру для пошуку пахаванняў. Допыт панятых, лічыць пацярпелы бок, павінен хоць бы часткова аднавіць у судзе рэальную карціну следчых дзеянняў, праведзеных увосень 2001 году ў рамках крымінальнай справы аб выкраданні Завадскага.

Аднак дзяржаўны абвінаваўца папрасіў суд адхіліць гэтае хадайніцтва на той падставе, што ўсе згаданыя дакументы павінны быць далучаны да крымінальнай справы, якая вылучана ў асобную вытворчасць. На думку абвінаваўцы, хадайніцтва прадстаўнікоў пацярпелага боку надаюць гэтай крымінальнай справе палітычнае адценне. У выніку суд адхіліў хадайніцтва.

Было адхілена і хадайніцтва аб допыце ў судзе ў якасці сведкі былога палкоўніка спецназу Уладзіміра Барадача. Акрамя таго, суд адхіліў хадайніцтва аб допыце суседкі Дзмітрыя Завадскага ў якасці сведкі. Паводле яе словаў быў складзены фотаробат аднаго з падазроных, які ў дзень выкрадання Завадскага доўгі час знаходзіўся каля яго пад'езду. Гэты фотаробат у многім нагадваў затрыманага, а пасля вызваленага супрацоўніка Службы бяспекі прэзідэнта, цяпер – афіцэра спецпадраздзялення «Алмаз» Аляксандра Леаненкі. У далейшым ён праходзіў па гэтай крымінальнай справе як сведка.

**Генадзь БАРБАРЫЧ**

# Спрошчанага пераходу няма

*Яшчэ ў снежні 1998 году Саўмін Беларусі і Кабінет міністраў Украіны падпісалі адмысловае пагадненне пра спрошчаны парадак перасячэння беларуска-ўкраінскай дзяржаўнай мяжы грамадзянамі, што жывуць у памежных раёнах.*

Крок гуманны і цалкам апраўданы. У некаторых беларускіх грамадзянаў нават лецішчы апынуліся на ўкраінскай тэрыторыі. Гэтаксама, як і ўва ўкраінцаў – на беларускай зямлі.

Прадугледжвалася, што да пачатку 2005 году на амаль 1000-кіламетровым адрэзку мяжы будзе адкрыта 30 двухбаковых пунктаў спрошчанага пропуску. Іх абсталяванне ўскладалася на мясцовыя выканаўчыя структуры.

7 лютага падчас сустрэчы ў Гомелі кіраўнікоў памежных ведамстваў Беларусі і Украіны Аляксандра Паўлоўскага і Мікалая Літвіна ў ліку іншых абмяркоўвалася і праблема спрошчанага пераходу жыхароў цераз мяжу. Пахваліцца тут няма чым. За тры гады пасля падпісання ўрадавага пагаднення няма ніводнага рэальна дзеючага двухбаковага пункту спрошчанага пропуску для жыхароў памежжа. Праўда, на Гомельшчыне з 13 прызначаных высілкамі аблвыканкаму 4 пункты ўсё ж створаны: Глыбоцкае і Паддабранка – у Гомельскім, Андрэеўка – у Добрушскім, Дзяржынск – у Лельчыцкім раёнах. Тут кругласутачна дзяжураць беларускія памежнікі. Аднак рэальнага пропуску тутэйшага насельніцтва яны не ажыццяўляюць, паколькі пункты не абсталяваны з украінскага боку.

Беларускі кіраўнік памежнага ведамства генерал Аляксандр Паўлоўскі засведчыў: «Ужо вясною на мяжы будзе працаваць не меней за чатыры пункты спрошчанага пропуску на нашых кірунках. Аднак гэта залежыць не толькі ад памежнікаў, але і ад аблвыканкамаў. Іх прадстаўнікі былі на перамовах і абяцалі паправіць справу».

Адсутнасць зручных цывілізаваных пераходаў на мяжы штурхае жыхароў да парушэнняў. Прынамсі, толькі гомельскія памежнікі перапынілі летась звыш паўтысячы спробаў перайсці мяжу нелегальна.

Большасць парушэнняў учынілі мігранты з Азіі і Афрыкі. Яны бесперашкодна прыязджаюць у Беларусь з Расіі і кіруюцца ўва Украіну, каб прабірацца далей на Захад. Аднак у ліку парушальнікаў не толькі так званыя афраазіяты. Каля 10 адсоткаў парушэнняў прыпадае на долю грамадзян Беларусі. Прыкладна столькі ж – на ўкраінцаў. Да таго ж на паўднёвай мяжы перапынена за год і 300 спроб незаконнага перавозу матэрыяльных каштоўнасцяў.

Канечне, спрошчаныя пераходы – не для мігрантаў з далёкага замежжа. Яны – выключна для суседзяў. Але нават на нядаўна пабудаваным шыкоўным пункце пропуску «Новая Гута–Новыя Ярылавічы» няма асобнага калідору для жыхароў памежжа. Яны мусяць станавіцца ў агульную чаргу.

Да апошняга часу ўкраінскі бок не ствараў пунктаў спрошчанага пропуску як бы ў адказ на факт нератыфікацыі беларускім парламентам дамовы пра супольную мяжу. У сваю чаргу нератыфікацыя дамовы, наколькі вядома, звязана з праблемай фінансавага доўгу Украіны Беларусі.

Якой жа надалей бачыцца супольная мяжа ўкраінскім ахоўнікам? Ці магчымая тут кантрольна-следавая паласа?

«Ніколі! – перакананы ўкраінскі генерал Мікалай Літвін. – Гэта не ўваходзіць у нашы планы. Мы будзем рабіць мяжу цывілізаванай».

Колькі часу спатрэбіцца для ўсталявання цывілізаванай мяжы, ніхто не ўдакладняў.

**Анатоль ГАТОЎЧЫЦ**

# Камп'ютэрны клуб пры Мінстаце

У Мінску ў будынку Галоўнага вылічальнага цэнтру (ГВЦ) Міністэрства статыстыкі і аналізу Беларусі адкрыўся новы камп'ютэрны клуб *«LEVEL»*, які спалучае дзяржаўны статус з прыватным менеджментам і маркецінгам.

Клуб абсталяваны 20 камп'ютэрамі *Celeron 900*. Поруч з агульнапрынятым наборам паслуг (гульні, друкаванне на прынтэры, скeніраванне, запіс *CD*, а ў перспектыве – інтэрнэт) тут будзе арганізаваны розьнічны продаж камплектуючых, аксесуараў, тэматычных газет і часопісаў.

Стварэнне камп'ютэрнага клубу, першага пры органах статыстыкі Беларусі, стала магчымым дзякуючы сінтэзу дзяржаўнай і прыватнай ініцыятывы. «ГВЦ Міністэрства статыстыкі і аналізу прадаставіў для клубу прыдатнае памяшканне; абсталяванне закуплена і прадастаўлена ў арэнду прыватным прадпрымальнікам», – растлумачыў журналістам дырэктар клубу Марк Бернштэйн. Клуб з'яўляецца дзяржаўным гасразліковым прадпрыемствам. Чакаецца, што паслугамі яго будуць карыстацца школьнікі і студэнты размешчанага паблізу Беларускага дзяржаўнага эканамічнага універсітэту. Арыентацыя – ад камп'ютэрных гульняў да інтэрнэта і адукацыйных праграм. Плануецца цесная работа са школамі ў галіне навучання інфарматыцы.

«Мы зацікаўленыя ў павышэнні камп'ютэрнай граматнасці насельніцтва, – заявіў на прэзентацыі клубу намеснік міністра статыстыкі і аналізу Беларусі Віктар Міхно. – Спадзяюся, што гэты клуб дазволіць пашырыць клас карыстальнікаў статыстычнай інфармацыі, бо дзеці праз камп'ютэрныя гульні прыйдуць да асваення сродкаў яе апрацоўкі і распаўсюджвання».

Паводле слоў дырэктара Галоўнага вылічальнага цэнтру Мінстата Віктара Гуляшова, новы клуб пакладзе пачатак стварэнню інфармацыйнай сеткі краіны, якая праз інтэрнэт дазволіць «зносіцца з усім светам». Клуб для школьніка, як адзначыў ён, гэта паслядоўна «гульня, пазнаванне, навучанне, прафесія».

Як растлумачылі БелаПАНу адказныя супрацоўнікі Міністэрства статыстыкі і аналізу, ідэя праекту значна шырэй, чым стварэнне «проста камп'ютэрнага класа з масай інфармацыі, якая забяспечвае вучэбны працэс». «Мы зацікаўлены ў стварэнні карпаратыўнай рэспубліканскай сеткі. У нас ёсць вылічальныя цэнтры пры статыстычных упраўленнях абласцей, пры якіх мы плануем ствараць падобныя структуры», – адзначыў Гуляшоў. Паводле яго слоў, у выпадку поспеху мінскага клубу наступнымі этапамі рэалізацыі праекту можа стаць стварэнне аналагічных клубаў у Брэсце і Магілёве. У перспектыве ў Мінстаце разлічваюць стварыць «добрыя камп'ютэрныя інфармацыйныя базы статыстыкі». Праз клубныя тэрміналы імі змогуць карыстацца спецыялісты або прыватныя даследчыкі, зацікаўленыя ў рабоце з такой інфармацыяй.

**Ірына САЗАНОВІЧ**

# Ахвяра «бітвы за ўраджай»

*Большасць з 697 дэлегатаў канферэнцыі працоўнага калектыву гродзенскага аб'яднання «Азот» прагаласавалі за акцыянаванне прадпрыемства. Іх пераканалі ў гэтым генеральны дырэктар В.Лангоў і прэзідэнт канцэрну «Белнафтахім» І.Бамбіза. Стварэнне адкрытага акцыянернага таварыства абдудзецца ўжо 18 сакавіка. Галасаванне прайшло 7 лютага.*

Нашто такая спешка? Рабочым адказалі, што перамовы з расійскімі кампаніямі вядуцца ўжо паўгода і на «Азоце» ведаюць, як і што рабіць у гэтай справе. Таму, маўляў, няма чаго зацягваць. Цікава, што, паводле апытання, за прыватызацыю выступалі 48% працаўнікоў, 30% – вагаліся, 20% былі супраць. На канферэнцыі прагучалі новыя лічбы – самыя свежыя: за акцыянаванне выказаліся ўжо каля 89%. (У апытанні ўдзельнічалі 6 162 работнікі з 7 200). Зрэшты, галасаванне гэта пацвердзіла. Карацей, ідэя хутка «авалодала масамі».

«Азот» – найбуйнейшае прадпрыемства Гродна і вобласці. Яно – сапраўдны барометр мясцовай эканомікі. Гендырэктар Лангоў паведаміў пра яго рэальнае становішча. Мінулы год атрымаўся вельмі складаным. У першай яго палове аб'яднанне мела страты – 12 мільярдаў рублёў ад паставак калгасам мінеральных угнаенняў. Нібы пераконваючы самога сябе, ён сказаў: але гэта наш кроўны абавязак, хочам мы таго ці не. Маўляў, трэба ўсё адно дбаць пра «харчовую бяспеку». Але калі не плацяць табе, ты таксама не можаш заплаціць сваім партнёрам. Таму нельга было закупіць новае абсталяванне. А паступленне сыравіны на прадпрыемства адбывалася, па словах кіраўніка, «на грані фолу».

Звярнуліся ва ўрад: тэрмінова дапамажыце, вярніце цалкам або хоць бы часткова грошы за сяўбу. Улады ў адказ далі на 3 месяцы палёгку з газам. Яшчэ ў кастрычніку «Азот» меў 6 мільярдаў рублёў стратаў. Да канца году так і не ўдалося зусім зліквідаваць страты, засталося 439 мільёнаў. Рэнтабельнасць рэалізаванай прадукцыі склала ўсяго 1,7 працэнта. Каб выплаціць заробкі, даводзілася браць крэдыты. Дзіўна! – зазначыў В.Лангоў. Пры такой магутнай вытворчасці даводзілася прасіць грошы на заробкі. 4 месяцы не маглі за энерганосьбіты заплаціць. Сяўба чарговым разам выбіла прадпрыемства з каляіны. Прычым з кожным годам гэтая «параза» адчуваецца ўсё мацней. У 2000 г. страты даволі ўдала атрымалася аднавіць у другой палове году за кошт экспарту. У 2001-м, аднак, тэмпаў росту экспарту захаваць не ўдалося.

Па-першае, узмацнілася канкурэнцыя з расійскімі прадпрыемствамі. Год таму свабодна прадавалі свой капралактам у Расіі, сёлета гэта стала немагчыма. Цяпер удаецца толькі перапрацоўваць чужы бензол, пастаўшчык плаціць адно за перапрацоўку яго ў капралактам, які забірае і прадае сам. Сёння капралактам можна прадаць максімум за 650 даляраў, а яго сабекошт 850-900 даляраў! Па словах В.Лангова, з пункту гледжання «эканамічнага чалавека» вытворчасць трэба спыняць. Падобная сітуацыя і з метаноламі. Летась яго экспартавалі да 2 тысяч тонаў у месяц, а ў студзені – ужо ні тоны.

Зноўку набліжаецца сяўба. Становішча будзе вельмі напружанае, лічыць дырэктар. Раўнамернай пастаўкі ўгнаенняў калгасам на працягу году дасягнуць не ўдалося. Гэта патрэбна прадпрыемству для рытмічнай працы, каб пазбегчы шкоднай «ліхаманкі». Аднак у дзяржавы няма ў другой палове году грошай на ўгнаенні. Прадпрыемства прапаноўвала, каб вырашыць праблему, такі разлік за ўгнаенні: па 40% даюць дзяржаўны і абласны бюджэты, астатнія 20% – самі калгасы. Але ў рэчаіснасці большасць грошай мусяць плаціць абласныя ўлады, калі не хочуць «заваліць» сяўбу.

Асноўныя фонды прадпрыемства зношаны ў сярэднім на 75-77%. На замену абсталявання ўдалося выдзеліць 5 мільёнаў даляраў сваіх грошай. Гэтага замала. А чакаць іншых сродкаў няма адкуль. Гэта – тупік, прызнаўся В.Лангоў. Таму, як мінімум, напачатку патрэбны 80-85 мільёнаў даляраў. Значыцца, трэба правесці акцыянаванне. Першая спроба была зроблена ў 1996 годзе. Тады расійскі «Газпрам» прапанаваў пастаўляць 4 млн. кубаметраў газу ў суткі, прычым 272 дні – бясплатна. За гэта кампанія хацела атрымаць 32% акцыяў. Наш бок не згадзіўся. Уласна кажучы, не даў згоды Лукашэнка – вырашыў пачакаць, «набіць цану».

Сёння, па словах кіраўніка «Азоту», склаліся іншыя ўмовы. Можна яшчэ паспрабаваць адцягнуць прыватызацыю на паўгода, але карысці ад гэтага не будзе. Трэба па выніках апошняга году ацаніць як след маёмасць і сказаць, колькі прадпрыемства каштуе рэальна. На сённяшні дзень прыблізная лічба, з улікам зношанасці фондаў, – каля 200 мільёнаў даляраў, прызнаўся В.Лангоў. Цікава, што ў гэты момант з прэзідыуму азваўся І.Бамбіза: маўляў, пачакай, не называй лічбу! Потым сам Бамбіза патлумачыў, што неабходна назваць «правільны» кошт, зрабіўшы націск на гэтым слове. Як вынікала з намёку, пажадана, каб лічба была большай за 200 млн.

Выглядае на тое, што ўлады паспрабуюць прадаць «надзьмутую кабылу». Інвестар, па словах прэзідэнта канцэрну, павінен мець сыравіну і як мінімум напачатку 100 млн. даляраў на мадэрнізацыю. Толькі пасля гэтага яму дадуць магчымасць купіць акцыі. Пакуль што пакваціліся на «Азот» 4 расійскія кампаніі – «Ітэра», «Лукойл», «Слаўнафта» і «Сургутнафтагаз». Хоць дырэктар прадпрыемства некалькі разоў сказаў, праўда, даволі абстрактна: можа, прыйдзе расійская кампанія, а можа – нямецкая...

І.Бамбіза ўдакладніў наконт «правільнага» кошту. Маўляў, нельга за бесцань прадаваць тое, што эфектыўна працуе і дае валюту. Карацей, ледзьве не курыца, якая нясе залатыя яйкі. Расіянам прапануюць 49% акцый, кантрольны пакет застанецца ў дзяржавы. А маючы яго, можна кіраваць «нядбайным інвестарам, акцыянерам», намякнуў сталічны начальнік. Ён таксама расказаў пра хітрыкі, якія выкарыстоўваюцца ў Расіі: можна стварыць такую схему працы прадпрыемства, калі прыбыткаў як быццам не будзе, і не плаціць падаткаў. У нас падмануць дзяржаву не ўдасца, мы расіян ужо папярэдзілі, сказаў Бамбіза.

Кіраўнік Незалежнага прафсаюзу «Азоту» С.Антусевіч прапанаваў прысутным не галасаваць за прыватызацыю. Ён патлумачыў сваю прапанову наступным чынам. Па законе ініцыятыва акцыянавання можа зыходзіць або ад самога калектыву, або ад ураду. Паколькі справай пачалі ўжо займацца самі ўлады, дык ім патрэбна адно – фармальная згода калектыву. У выпадку няўдачы ўлады змогуць спасылацца на рабочых: маўляў, яны самі хацелі гэтага. Цікава, што выступ прафсаюзнага лідэра дэлегаты ўхвалілі воплескамі. Аднак падчас галасавання не падтрымалі яго.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

# За акцыянаванне Цэнтральнага рынку

Арганізацыя Свабоднага прафсаюзу Беларускага (СПБ) прыватных прадпрымальнікаў Гомеля накіравала абласным і гарадскім уладам заяву з прапановай спыніць рэканструкцыю Цэнтральнага рынку горада і правесці акцыянаванне гэтага унітарнага прадпрыемства. Пад заявай падпісаліся 1 330 індывідуальных прадпрымальнікаў, якія гандлююць на рынку.

Іх актыўнасць выклікаў той факт, што ўлетку 2001 году адміністрацыя Цэнтральнага рынку, уласнік якога – абласны саюз спажывецкіх таварыстваў, пачала збор сродкаў з гандляроў на будаўніцтва новых гандлёвых месцаў. Грошы ў суме 1,5–2,8 тысячы даляраў ЗША афармляліся як «бязвыплатная фінансавая дапамога». Прадпрымальнікі меркавалі, што яны будуць аплачваць толькі расходы на камунальныя паслугі, а пабудаваныя гандлёвыя месцы ў выглядзе палатак з пластыку, якія закрываюцца ралетамі, будуць іх уласнасцю. Аднак у снежні 2001 году гандлярам выставілі рахунак за арэнду гэтых пабудоваў з разліку 21 даляр ЗША за 1 квадратны метр плошчы (у эквіваленце).

Зараз прадпрымальнікі прапаноўваюць прызнаць перададзеныя імі грашовыя сродкі інвестыцыямі, а гэтыя пабудовы – іх уласнасцю. А паколькі на тэрыторыі унітарнага прадпрыемства «Цэнтральны рынак» з'яўляецца ўласнасцю трэціх асоб, прафсаюз прапаноўвае правесці яго акцыянаванне.

Акрамя таго, прадпрымальнікі звяртаюць увагу ўлад на тое, што дзеючая сістэма прадастаўлення ім неабсталяваных гандлёвых месцаў, дзе яны ставяць свае гандлёвыя палаткі, з'яўляецца, па сутнасці, «перапрадажам участка зямлі, які належыць не абласному саюзу спажывецкіх таварыстваў, а гораду». Прадпрымальнікі лічаць, што выручаныя ад размяшчэння палатак сродкі павінны ісці напрасткі ў гарадскую казну, мінаючы рахункі ўласніка рынку. Такі парадак выкарыстання тэрыторыі рынку, як лічыць прафсаюз, зможа «у шмат разоў павялічыць паступленні ў гарадскі бюджэт».

**Ірына ШАНЦАВА**

# Навуцы «абрэзалі» фінансаванне

У 2002 годзе рэальнае фінансаванне фундаментальнай навукі паменшыцца. Пра гэта паведаміў БелаПАНу вучоны сакратар Рады па каардынацыі фундаментальных даследаванняў пры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Юрый Курачкін, каментуючы прынятую 29 студзеня Саветам міністраў Беларусі пастанову, якая зацвярджае пералік фундаментальных навуковых даследаванняў і асігнаванні на іх правядзенне.

Паводле словаў Курачкіна, скарочана сёлета і колькасць праграм фундаментальных даследаванняў – з 52 да 44. Разам з тым вучоны сакратар упэўнены, што «ўсё галоўнае, што ёсць у навуцы Беларусі, сканцэнтравана ў гэтых праграмах».

Скарачэнне колькасці праграмаў тлумачыцца тым, што многія навуковыя даследаванні, якія вядуцца ў Беларусі, дасталіся нам «у спадчыну з савецкіх часоў», і сёння яны «або вельмі цяжкія для краіны, або не з'яўляюцца прыярытэтнымі, зыходзячы з нашых нацыянальных інтарэсаў».

Што да магчымага пазабюджэтнага фінансавання фундаментальных даследаванняў (гаспадарчыя дамовы, гранты, інвестыцыі), то, на думку Курачкіна, «гэта не так проста». Тут спадзяванняў мала.

**Юрый КАСЬЯНАЎ**

# Трыумф Нацыянальнага банку

*Да слова «нацыянальны» шмат хто з тутэйшых аматараў славянскае інтэграцыі ставіцца з падазронасцю. Выключэнне складаюць хіба што галоўны банк краіны і някепскі аднайменны гастраном на вуліцы Сурганава.*

Фота IREX/ProMedia

Гэта зразумела, бо менавіта дзеячы рознічнага гандлю і банкіры былі ў апошняе дзесяцігоддзе творцамі беларускага эканамічнага дзіва. І калі гандляры шурудзілі адпрацаванымі яшчэ ў часы бальшавіцкага татальнага дэфіцыту падпольнымі метадамі, то банкіры апанавалі публічную палітыку. Дастаткова згадаць прозвішчы: Багданкевіч, Пракаповіч, а яшчэ Чыгір і іншыя менш вядомыя паспалітаму люду рыцары рубля і далара.

Дарэчы, што на самой справе адбываецца ў банку, будзь то камерцыйным альбо нацыянальным, расказаць можа далёка не кожны банкір. Надта ўжо гэта складаная справа. Не будзем жа, шаноўны чытач, і мы вылузвацца са скуры і спрабаваць нахабна ўлезці ў таямніцы грашовага рэгулявання. Бо мы столькі гатоўкі ў кішэні не мелі, колькі штодня бачыць нулёў у сваіх паперках апошні банкаўскі клерк.

Таму вельмі цікава бывае глядзець на начальнікаў, як яны мусяць дзеля выканання службовых абавязкаў каментаваць плённасць працы банкаў, гэтых чорных скрыняў нашай разбітай эканомікі. Ну, мы не начальнікі, ніякай глыбіні макраэканамічнага аналізу пан бог у нашых галовах не стварыў. Дык паразважайма пра перамогі на крэдытна-грашовым фронце крыху павярхоўна, па-радуемся і пусцім слязу з, можа стацца, нязначных для сапраўднага стратэга нагодаў.

Што натхняе? Банк нашае нацыі абнаўляе мадэлі грашовых адзінак часцей, чым які буцік свае ультрамодныя калекцыі. Гэта моцны ход. Прайдзісветы, каторыя спецыялізуюцца на падробцы купюраў, проста ў разгубленасці і, мабыць, з'ехалі літы з еўрамі друкаваць.

Да таго ж летась усе задачы партыі і ўраду наш банк выканаў-перавыканаў. Рэальны сектар падтрымаў. Рэальны прыбытак прадпрыемстваў і ўстановаў краіны скараціўся летась толькі на 29,4%. Вы толькі ўявіце, што б з імі стала без падтрымкі.

Фінансы стабілізаваў. Кожны бюджэтнік і пенсіянер гэта адчуў. Цэны лятуць халера яго ведае куды, а фінансы стаяць, нібыта ўмураваныя.

Свой уласны прагноз па крэдытах перавыканаў. На 15% болей раздаў грошай, чым планавалася. Мо яно і добра. А можа, план быў такі, сакрэтны, каб *NATO* абдурыць.

Пра курс даляра няма чаго і казаць. Поўнасцю яго трымалі, дзе і як хацелі. Як той дзядзька казаў, калі ў яго свіран гарэў: «Але ж і мышэй там ляснула». Так і ў нас, шчаслівы народ ломіцца ў абменнікі па зялёныя, а начальства завадское выконвае план па спажыванні валідолу: бо няма валюты пад абарот. Так ім і трэба.

Ім жа ўсё мала. Глядзіце, як лічыць на баксы, то эканоміцы выдалі за год 1,8 мільярда, а яны інвестыцыі скарацілі на 6% да мінулага году. Калгасам, дык тым наогул удвая болей летась сунулі, чым пазалетась. Праглынулі, як сабака муху. І ККД (каэфіцыент карыснага дзеяння) аналагічны: жывая вага ўсяго жывога, што здалі яны дзяржаве, не дацягнула і да паловы таго, што атрымалася ў 1990 годзе. Можа, камунякі моцна прыпісвалі і важылі дрэнна?

Але старажытны расейскі мудрэц Міхайла Ламаносаў, чалавек вясковы, добра сказанўў: калі дзе чаго паменела, то шукай і знойдзеш, дзе паболела. Правільныя прынцыпы грашова-крэдытнай палітыкі дазволілі за той самы час, покуль эканоміка спаўзала ў бездань рынкавага сацыялізму, павялічыць рэальныя актывы беларускіх банкаў на 10%, а іхны уласны капітал у еўра ажно на 12,2%.

Калі нехта не ведае апошніх навінаў, дык нагадаю: банкаўская сістэма – аб'ект пільнай увагі кіраўніка дзяржавы, падпарадкуецца яму непасрэдна і дзейнічае ў поўнай адпаведнасці з ягонымі загадамі.

Зразумелі. Не бойцеся нікога. Нясіце грошы ў абменны пункт і з абменнага пункту. Захоўвайце іх ва ўстановах банкаў і старых панчохах. Сачыце за дынамікай абменнага курсу і індэксам «Чарка&Скварка». Кажуць, што аб'ём грашовай масы абганяе ў сваім росце спажывецкія цэны і некаторыя яйкагаловыя з гэтага робяць высновы. Не паддавайцеся на іхныя правакацыі. Выснова тут адна – грошы ёсць, іх многа і хопіць усім. І калі бацькаўшчына вышэйзгаданага акадэміка Ламаносава прырастае Сібірам, дык нашая – банкаўскім сектарам. Можа, мы – Швейцарыя трэцяга тысячагоддзя.

**Юзік ЛАБЭЦКІ, кліент банку**

# Адвакаты Лукашэнкі ў беластоцкім судзе

*У трэці раз Беластоцкі акруговы суд вынес рашэнне пра экстрадыцыю беларускага бізнесмена Андрэя Жукаўца ў Беларусь.*

Сам Жукавец, які абвінавачваецца ў невяртанні 700 тысяч даляраў банкаўскага крэдыту, збіраецца змагацца далей і падаць чарговую апеляцыю на рашэнне суду (у двух папярэдніх выпадках апеляцыйны суд вяртаў справу на паўторны разгляд).

Жукаўца, якога шукаюць з траўня 1999 г. паводле разасланага беларускімі органамі ліста аб выдачы, арыштавалі ў Польшчы, дзе ён жыў ужо два гады, 7 лютага мінулага году. Ад самага пачатку ён сцвярджаў, што абвінавачанні супраць яго носяць палітычны характар, бо ён быў звязаны з беларускай апазіцыяй і фінансава падтрымліваў БНФ. Жывучы і працуючы ў Беластоку, ён надалей падтрымліваў сувязі з прадстаўнікамі Маладога Фронту ў Польшчы. У судзе адвакат Жукаўца Здзіслаў Кішкель прадставіў ліст, падпісаны 16 дзеячамі беларускай апазіцыі і абаронцамі правоў чалавека ў падтрымку беларускага бізнесмена, а таксама ліст польскага Хельсінкскага фонду пра парушэнні правоў чалавека і прынцыпу незалежнасці судовай сістэмы ў Беларусі.

Але суд не ўзяў пад увагу гэтых дакументаў, лічачы, што абвінавачанне супраць Андрэя Жукаўца носіць выключна крымінальны характар і няма доказаў, што ў Беларусі Жукавец зазнае катаванні або рэпрэсіі. Зрэшты, цяперашняе абгрунтаванне рашэння суду практычна цытуе папярэдняе, з якім не пагадзіўся апеляцыйны суд.

І хоць рашэнне суду ў справе Жукаўца «выбіваецца» з аналагічных працэсаў, якія прайшлі ў Польшчы за апошнія колькі гадоў (нагадаем, што польскія суды адмовілі ў экстрадыцыі Аляксандра Пупейкі, Леаніда Ваўка, Валерыя Кругавога, Аляксандра Якаўлева), самым нечаканым для прысутных на судовым паседжанні сталі заявы польскага пракурора Уладзімежа Раманьчука і суддзі Яна Сідарука (паводле інфармацыі карэспандэнта НАШАЙ СВАБОДЫ, абодва па нацыянальнасці беларусы). І суддзя, і пракурор выступілі гэтым разам у ролі адвакатаў рэжыму Лукашэнкі. ***«Сітуацыя ў Беларусі паступова стабілізуецца, пра што паведамляе прэса. Андрэя Жукаўца дзякуючы мас-медыям ужо ведаюць, і таму ягоны працэс будзе адпавядаць дэмакратычным стандартам. Цяжка ўбачыць у дзеяннях беларускіх органаў рэпрэсіі. Рызыка, што Жукавец зазнае рэпрэсіі, нявялікая»***, – лічыць беластоцкі суддзя. Да таго ж «змякчаючай акалічнасцю» з'яўляецца і тое, што, як выказаўся суддзя, парушэнне прынцыпаў правасуддзя ў большай ці меншай ступені здараецца ўва ўсіх краінах. Не пераканалі суддзю і паказанні сведкі, Валерыя Кругавога, які расказаў, як на практыцы беларуская міліцыя і пракуратура трактуюць арыштаваных апазіцыянераў: здзекуюцца, збіваюць, фальсіфікуюць паказанні, пазбаўляюць хворых лекарскай дапамогі і да т.п.

Яшчэ з большым імпэтам бараніў «добрае імя» беларускіх калегаў пракурор Раманьчук. «Якія пераследаванні? Замыкаюць у металічных клетках? Лупцуюць? Бізуном? Палкай ці дубінкай?! Публічна? А рукі за крадзеж не адсякаюць?» – пытаўся ў сведкі пракурор. На яго думку, польскі суд не мае права ганіць беларускі суд, да таго ж няма ніякіх доказаў, каб у Беларусі дзейнічала так добра вядомае ў Польшчы «тэлефоннае права». У парыве праведнага абурэння тым, што ўсе вакол гэтак несправядліва паклёпнічаюць на беларускую сістэму правасуддзя, беластоцкі пракурор «не пашкадаваў» ні свайго прэзідэнта, ні міністра юстыцыі: ***«У прэсе мы можам прачытаць, што Лукашэнка прызначае суддзяў. У Польшчы іх таксама прызначае прэзідэнт. Затое Лукашэнка забяспечвае суддзям кватэры, а польскі суддзя сам павінен гэтым займацца. Польскі прэзідэнт не трактуе суддзяў гэтак добра, як Аляксандр Лукашэнка».*** Раманьчук прыгадаў таксама, што міністр юстыцыі і генеральны пракурор Польшчы Лех Качынскі ўвесну мінулага году публічна заявіў, што не дапусціць выкарыстання польска-беларускай дамовы аб прававой узаемадапамозе ад 1994 году ў змаганні беларускіх уладаў з апазіцыяй і не выкажа згоды на экстрадыцыю Жукаўца, калі яна матывавана палітычнымі прычынамі.

Знайшліся ў пракурора і тлумачэнні, чаму да сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі крытычна ставяцца міжнародныя арганізацыі, справаздачы якіх ён назваў «няпоўнавартаснымі»: ***«Гэта высновы, зробленыя пад заказ. Былі выбары, і на гэтага Лукашэнку трэба было напісаць як мага болей».*** Таму, маўляў, і крыўдзяць беднага беларускага прэзідэнта незаслужана.

Былы міністр юстыцыі Польшчы Лех Качынскі так каментуе гэтую справу: ***«У пытаннях экстрадыцыі ў Беларусь я стараўся захаваць асаблівую асцярожнасць. Выдача туды людзей – гэта выдача іх у рукі рэжыму Лукашэнкі. І таму я дзейнічаў, як кожны дэмакратычны генеральны пракурор. Не магу паручыцца, што Андрэй Жукавец поўнасцю «чысты», але матывы пераследавання яго беларускай пракуратурай, без сумнення, маюць палітычны аспект, бо ён быў і цяпер застаецца звязаны з апазіцыяй. Усе ведаюць метады беларускіх органаў правапарадку: людзі прападаюць, іх выкрадаюць, яны знікаюць назаўсёды. Прызнаю: я афіцыйна казаў, што не дапушчу экстрадыцыі. Бо канчатковае рашэнне – згодна з законам – ляжыць у кампетэнцыі генеральнага пракурора. Але я не ўплываў на рашэнне беластоцкага суду, бо ў мяне не было ніякіх магчымасцяў зрабіць гэта».***

Намеснік старшыні Саюзу беларускіх палітычных уцекачоў у Польшчы Андрэй Юцкевіч не дзівіцца, што беластоцкія суддзя і пракурор вельмі «паблажліва» ацэньваюць сітуацыю з правамі чалавека ў Беларусі і адкрыта захапляюцца Аляксандрам Лукашэнкам. «Наш Саюз ужо казаў пра тое, што на Беласточчыне ёсць уплыў беларускіх уладаў. І цяпер мы бачым прыклад таго, як польскае права выкарыстоўваецца ў інтарэсах цяперашніх беларускіх уладаў», – сцвярджае Юцкевіч.

**Людміла ГУЛЯКЕВІЧ**

# Адшукаць чалавека

Вось ужо 19 дзён ані сям'я, ані сябры не бачылі 24-гадовага Юрася Корбана – старшыню Цэнтру грамадскіх ініцыятываў «Контур».

Юрась знік у ноч з 19 на 20 студзеня. Збіраючыся дахаты, ён патэлефанаваў маці і сказаў, што хутка будзе. Але дамоў ён не прыйшоў ні ў той вечар, ні назаўтра. Праз колькі дзён ён зноў патэлефанаваў маці і сябрам, і нейкім дзіўным голасам сказаў, што з ім усё добра, і ён неўзабаве з'явіцца. Але вось ужо больш за тыдзень ад яго не было ніякіх звестак. Тады маці Юрася падала заяву аб вышуку ў міліцыю.

Ані сябры, ані партнёры Юрася не ведаюць, у чым справа.

**Малады Фронт просіць усіх, каму хоць што-небудзь вядома пра месцазнаходжанне Юрася Корбана, патэлефанаваць на 284-50-12 або 8-0296-512-665**

# Ад 3 да 7 гадоў турмы для былых следчых

Такога пакарання запатрабаваў пракурор для былых следчых Першамайскага райаддзелу міліцыі, якіх абвінавачваюць у збіцці падследных ды іншых злачынствах. Паводле назіральнікаў, гэты працэс у Кастрычніцкім судзе Мінску шмат у чым беспрэцэдэнтны. На ім судзяць адразу пяцёх следчых, якія, па словах сведкаў, збівалі падследных, адбіралі ў іх кватэры, займаліся валютнымі аперацыямі ды яшчэ і спрабавалі пасвітацца з тымі, хто меў мужнасць заявіць пра іхныя дзеянні.

Пракурор Аляксандр Сіняк, распачынаючы сёння судовыя слуханні, заявіў, што віна міліцыянтаў даказаная цалкам. Пракурор папрасіў пакараць былых следчых Першамайскага райаддзелу пазбаўленнем волі ў турмах узмоцненага рэжыму на даволі значныя тэрміны. Найбольшы тэрмін – 7 гадоў – ён запатрабаваў для былых аператыўнікаў Сяргея Бурдыкі і Уладзіміра Крамсаева. Апошняга, дарэчы, пасля ўзбуджэння супраць яго крымінальнай справы перавялі з райаддзелу ў гарадское ўпраўленне міліцыі.

6 гадоў турмы з канфіскацыяй маёмасці, паводле пракурора, заслугоўвае былы ўчастковы Мікалай Ліпскі, якога абвінавачваюць у гандлі валютай і захоўванні боепрыпасаў.

Аляксандр Сіняк казаў пра вялікую сацыяльную небяспеку таго, што збіванне следчымі падследных можа стацца нормай. Пракурор спасылаўся на сведчанні 10 пацярпелых і іхных сваякоў, якія пацвердзілі ў судзе, што іх збівалі і нават гвалтавалі, каб прымусіць агаварыць сябе.

Другой надзвычайнай рысай працэсу сталі паводзіны абвінавачаных. Яны дагэтуль вядуць сябе вельмі самаўпэўнена, віны не прызнаюць і нават пагражаюць пацярпелым і сведкам. Дайшло да таго, што пра ціск на сябе публічна заявіла суддзя Маргарыта Рыштоўская. Паводле дасведчаных крыніцаў, на адным з нядаўніх паседжанняў яна сказала, што будзе вымушаная скарыстаць 390 артыкул Крымінальнага кодэксу, які прадугледжвае 5-гадовае турэмнае пакаранне за незаконнае ўздзеянне на суддзю.

Прагназуюць, што прысуд будзе адрозніваццa ад прапаноў пракурора, бо многія ўплывовыя міліцыянты салідарныя з абвінавачанымі калегамі і аказваюць ім падтрымку.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**
**Радыё «Свабода»**

# Хлусня па загадзе

*Калі яшчэ ў часы СССР праходзілі абмежаваныя кампаніі рэабілітацыі людзей, незаконна рэпрэсаваных органамі НКУС (НКВД), іхныя родныя часта атрымоўвалі даведкі з пазначэннем, што іх бацька, дзед, брат памерлі ў лагеры ад «ожирения сердца» ці «воспаления легких». Аказалася, што гэтыя выразы на нкусаўскай мове – сінонімы слова «расстраляны». Невядома, дзе іх расстрэльвалі, дзе хавалі, бо гэтым даведкам няма веры. У розныя гады ў Беларусі дзейнічалі дзесяткі турмаў і было шмат патаемных месцаў, дзе нкусаўцы хавалі ахвяраў тэрору.*

Да гэтага часу мы практычна нічога не ведаем пра фальсіфікацыю ў дзяржаўным маштабе сапраўдных датаў смерці нашых суграмадзян, бязлітасна забітых у 1930–1950-я гады.

Пра лёсы арыштаваных хлусілі заўсёды. Праўда пачала патроху раскрывацца, пачынаючы з сярэдзіны 50-х гадоў. Аднак была катэгорыя ахвяраў рэпрэсій, пра лёс якіх працягвалі свядома лгаць і ў перыяд першай рэабілітацыі, і пры «застоі», і ў разгар перабудовы. Пад забаронай ува ўсе эпохі заставалася праўда пра лёс тых, каго расстралялі паводле прысудаў несудовых органаў – «асобых троек», «троек», «двоек», Асобай нарады, Камісіі НКУС і Пракурора СССР і г.д.

Самы ранні з вядомых нам загадаў НКУС, датычных гэтага пытання, датуецца 1939 годам. Загад прадпісваў на запыты сваякоў пра лёс таго ці іншага расстралянага адказваць, што ён быў асуджаны на 10 гадоў папраўча-працоўных лагераў без права перапіскі і перадач. Увосень 1945 году загад адкарэктавалі – заяўнікам пачалі казаць, што іх сваякі памерлі ў месцах зняволення.

Прэзідыум ЦК КПСС 18 жніўня 1958 г. вынес пастанову, на падставе якой колішні старшыня КДБ СССР І.Сяроў выдаў разгорнутае ўказанне – загад паведамляць, што расстраляныя былі асуджаны на 10 гадоў ВПЛ на Крайняй Поўначы і памерлі падчас адбыцця пакарання. У крайніх выпадках (калі гэта патрабавалася для вырашэння маёмасных ці прававых пытанняў) прадпісвалася рэгістраваць смерць у органах ЗАГС па месцы жыхарства асуджанага да арышту і выдаваць пасведчанне аб смерці. Пры гэтым дата смерці вызначалася КДБ адвольна ў межах 10 гадоў з дня арышту (паміж днём асуджэння і гэтай датай утвараўся разрыў 5–6 гадоў), выдуманай была і прычына смерці, а ў якасці месца ўказвалася месца жыхарства асуджанага да арышту.

У выніку прыдуманыя даты пачалі з'яўляцца ў афіцыйных дакументах і пасведчаннях аб смерці, а органы ЗАГС па загадзе МДБ працягвалі выдаваць сваякам ліпавыя пасведчанні аб смерці. Такія «пасведчанні» атрымалі сотні тысячаў грамадзянаў.

Месцы расстрэлаў і пахаванняў рэпрэсаваных у БССР у 1918-1940 гадах. Склаў Ігар Кузняцоў

Пасля перагляду архіўна-следчых спраў з 1954 па 1961 год з агульнай колькасці расстраляных несудовым парадкам было рэабілітавана каля 60% асуджаных. Іх сваякам былі абвешчаны лжывыя звесткі аб смерці, якая быццам бы наступіла ў месцах зняволення.

І толькі ў снежні 1962 году ў кулуарах КДБ выспела прапанова пра скасаванне тагачаснага парадку разгляду заяў грамадзян з запытамі пра лёс сваякоў. Але гэта было выклікана далёка не гуманнымі пачуццямі. Аказваецца, паведамленне грамадзянам выдуманых датаў і абставінаў смерці іх блізкіх кампраметавала органы дзяржбяспекі, асабліва пры апублікаванні ў перыёдыцы датаў смерці асобаў, якія мелі ў мінулым заслугі перад дзяржавай.

Апроч таго, рэгістрацыя смерці расстраляных грамадзян па рашэннях несудовых органаў з пазначэннем у дакументах выдуманых тэрмінаў іх знаходжання ў месцах зняволення ставіла іх сямейнікаў у няроўныя ўмовы з сямейнікамі асобаў, расстраляных паводле суду.

У сувязі з гэтым па прапанове старшыні КДБ СССР У.Семічаснага і з ухвалы Палітбюро ЦК КПСС з 1963 году на запыты грамадзян пра лёс іхных сваякоў, асуджаных на расстрэл несудовым парадкам, пачалі вусна паведамляць сапраўдныя абставіны смерці гэтых асобаў, як гэта рабілі Ваенная калегія Вярхоўнага суду СССР і ваенныя трыбуналы ў адносінах да асобаў, расстраляных паводле суду.

Тым, каму раней хлусілі (адпаведна з указаннямі 1955 г.), працягвалі хлусіць, як раней. Не змяніўся парадак і адносна звестак, якія перадаваліся за мяжу, – тут прапаноўвалі кіравацца меркаваннямі практычнай мэтазгоднасці ў кожным асобным выпадку.

Хлусня ўзору 1963 году праіснавала да канца 80-х і была адменена загадам па КДБ СССР ад 30 верасня 1989 году. Такім чынам, грамадзяне, якія атрымалі адказ паміж 1955 і 1963 гадамі і не звярталіся з новымі запытамі пасля 1989 году, так да гэтай пары і не ведаюць сапраўдных прычынаў і датаў смерці сваіх сваякоў.

Дзіва што архівы КДБ перыяду масавых рэпрэсіяў дагэтуль захоўваюцца пад грыфам «сакрэтна». Ці будуць адкрыты для вывучэння спецыялістаў справы былых працаўнікоў НКУС, дзе тэхналогія рэпрэсій дакументальна прадстаўлена ў форме генацыдных разнарадак? Якія архіўныя матэрыялы ўжо вынішчаны? На чый загад?

Адказаць на гэтыя і шматлікія іншыя пытанні дазволіў бы больш адкрыты доступ даследчыкаў у ведамасныя архівы і перш за ўсё КДБ.

**Ігар КУЗНЯЦОЎ**

# Палесцінцы рыхтуюць ракетны ўдар

*Палесцінскім тэрарыстам удалося пераправіць у Віфлеем ракеты Kassam-2 і пускавыя ўстаноўкі да іх. Пра гэта паведамляе MIGnews.com са спасылкаю на крыніцы ў ізраільскай ваеннай разведцы «Шабак». Па звестках гэтых крыніц, ракеты ўсталяваныя ў раёне Бейт-Лехем (Віфлеему) і нацэленыя на Іерусалім.*

Гэткія ж устаноўкі ёсць на ўзбраенні ў баевікоў у Калькіліі і Туль-Карэме. Адзін з лідэраў палесцінскіх экстрэмістаў, выступаючы ў чацвер, пагражаў «ператварыць паўднёвы раён Іерусаліму Гіло ў сыр». І гэтыя словы ў Ізраілі схільныя ўспрымаць усур'ёз.

Радыус дзейнасці ракетаў *Kassam-2* – каля 10 кіламетраў. Так што баевікам цалкам па сілах дастаць не толькі Гіло, але і раёны Малка, Катамоны, Тальміёт і іншыя. Калі палесцінцам удасца выпусціць ракету з тэрыторыі Бейт-Джалы, то пад пагрозаю апынецца нават будынак ізраільскага парламенту (кнесету). З Калькіліі ўдар можна нанесці па Кфар-Сабе, з Туль-Карэму – па Нетаніі.

Некалькі дзён назад ізраільскім вайскоўцам удалося перахапіць 8 ракет *Kassam-2* і пускавыя ўстаноўкі да іх, якія палесцінскія баевікі спрабавалі даставіць з Шхему ў Джэнін, адкуль іх можна нацэліць на Афулу.

Ізраільскія ваенныя спецыялісты адзначаюць, што паводле разбуральнае моцы ракеты *Kassam-2*, якія нясуць зарад, эквівалентны некалькім кілаграмам у тратылавым эквіваленце, значна перасягаюць мінамётныя снарады, якімі ўжо некалькі разоў бамбардавалі ізраільскі раён Гіло. У той жа час, як кажуць, прыцэльнасць падобных удараў надзвычай нізкая.

Мінулае ночы ізраільскія армейскія падраздзяленні правялі аперацыю ў паўночных кварталах Наблуса. Як паведамляе *РИА «Новости»*, у выніку перастрэлкі ў раёне лагеру ўцекачоў Аскар раненні атрымалі некалькі палесцінцаў. Траіх палесцінцаў арыштавалі. Да раніцы армейскія падраздзяленні з Наблусу былі выведзеныя.

Гэтая аперацыя стала адказам ізраільскай арміі на напад на аўтамашыну з ізраільскімі нумарнымі знакамі ў раёне Наблусу ўвечары ў суботу. У выніку нападу загінула пажылая ізраільцянка, паранены яе сын і ўнучка. Па некаторых звестках, арыштаваныя палесцінцы маюць дачыненне да нападу.

# Іерархі прагнуць манаполіі

*Праваслаўе цяперашнім часам у модзе. Публічныя палітыкі і дзяржаўныя мужы, якія павырасталі ў бязбожжы, цудоўным чынам апынуліся ў статку паслухмяных агнцаў Хрыстовых. Нават камуністы, пагардзіўшы ленінскім запаветам «не заігрываць з божачкам», кладуць на сябе крыж. У такой атмасферы іерархі Рускай праваслаўнай царквы пачуліся больш упэўнена і дыктуюць ужо, як жыць і што рабіць, не толькі сваёй пастве, але і грамадству ў цэлым.*

Планы вялікія: сфармаваць заканадаўчыя і інстытуцыйныя механізмы непасрэднага ўплыву Царквы на дзяржаўную палітыку, стварыць на бюджэтныя грошы, але пры РПЦ магутны медыя-холдынг і замацавацца на дзяржаўных тэлеканалах, увесці абавязковае выкладанне Закону Божага ў школах, абсадзіць Узброеныя Сілы праваслаўнымі палітрукамі, атрымаць падатковыя і іншыя льготы для праваслаўнага бізнесу і г.д.

Вядома, некаторыя з гэтых планаў не заўсёды заяўляюцца напрост і лапідарна на ўзроўні найвышэйшых царкоўных саноўнікаў, але што ў апошніх наўме, тое ў святых айцоў рангам ніжэй на языку. Скажам, Патрыярх Маскоўскі і Усяе Русі Алексій II публічна выступае толькі за выкладанне школьнікам «Асноваў праваслаўнай культуры». Але протаіерэй Дзмітрый Смірноў, выступіўшы на Калядных чытаннях, што завершыліся ў Маскве на мінулым тыдні, гаварыў адкрыта: «Мы павінны ставіць перад дэпутатамі задачу, каб яны абяцалі, што нашых дзяцей будуць вучыць Закону Божаму, а з экранаў тэлевізараў прыбяруць усё, што нам не даспадобы». Якраз так – прыбраць усё, што *ім* не даспадобы! Далей айцец Дзмітрый зрабіў заяўку на тое, каб РПЦ было адведзена 70% эфірнага часу – згодна з доляю нібыта праваслаўнага насельніцтва.

Добра, што камуністы таксама цяпер сталі праваслаўнымі, а то і яны ж прэтэндуюць на 30% тэлеэфіру адпаведна з доляю сваіх выбарцаў: 70+30=100 – куды неправаслаўнаму антыкамуністу падацца? Заўважым таксама, што колькасць звязаных з РПЦ друкаваных выданняў ужо ў паўтара раза перавышае дарэвалюцыйны ўзровень. Здавалася б, царкоўнікі не абдзеленыя інфармацыйнаю свабодай, але ў тым і рэч, што ім гэтага мала – патрабуецца яшчэ *абмежаванне свабоды* распаўсюджваць «неправаверную» інфармацыю, а ў шырэйшай пастаноўцы – абмежаванне, у тым ліку на дзяржаўным узроўні, грамадскай дзейнасці, няўгоднай праваслаўным іерархам.

Тут ужо закранаюцца такія краевугольныя асновы сучаснага грамадства, як аддзяленне царквы ад дзяржавы і свабода сумлення. Для чалавека рэлігійнага тая праўда, у якую ён верыць, адзіная і універсальная, таму імкненне да узурпацыі права на праўду, агулам кажучы, рэч натуральная. Але сам Госпад дараваў чалавеку свабоду волі. Баронячы свабоду сумлення індывідуума, не звязаная з канкрэтнай царквою дзяржава хіба парушае задуму Тварца?

Само з'яўленне свецкай дзяржавы РПЦ трактуе як дэградацыю ў грамадстве духоўных асноваў, прызнаючы прынцып аддзялення царквы ад дзяржавы толькі ў якасці вымушанай неабходнасці. У асноватворным дакуменце «Асновы сацыяльнай канцэпцыі Рускай праваслаўнай царквы», што прыняў Архіерэйскі Сабор у жніўні 2000 году, гаворыцца: «Дзяржава як неабходны элемент жыцця ў сапсаваным грэхам свеце... дабраслаўляецца Богам. У той жа час неабходнасць дзяржавы вынікае не непасрэдна з волі Божае аб першастворным Адаме, але з наступстваў грэхападзення і з згоднасці дзеянняў па абмежаванні панавання грэху ў свеце з Ягонаю воляй»; таму дзяржава «не мае права абсалютызаваць сябе, пашыраючы свае межы да поўнай аўтаноміі ад Бога». Дазвольце, аднак, пацікавіцца: недапушчальная аўтаномія ад якога Бога? – Святое Тройцы? Алаха? Буды? Або «неаўтаномная» дзяржава шматканфесійнага грамадства паклікана служыць усім багам адначасова?

Крэс мараў нашых іерархаў – тэакратыя. У сучасным разуменні гэта, як відаць, «форма праўлення, пры якой галава дзяржавы з'яўляецца адначасова яго рэлігійным галавою» (*Большой энциклопедический словарь*, М., 1999, с. 1192). Аднак этымалогія гэтага тэрміну азначае богапраўленне. А пра якое гіпатэтычнае аднаўленне богапраўлення ідзе гаворка цяпер? Пры ўсёй пашане да Алексія II і ягонага сану ёсць вялікія сумненні наконт наяўнасці ў яго непасрэднага дыялогу з Госпадам.

Сюжэты з Свяшчэннага Пісання выкарыстоўваюцца таксама дзеля абгрунтавання богададзенасці манархіі і яе перавагі над дэмакратыяй як грамадскім ладам, які не атрымаў Боскае санкцыі. Паслухайма старшыню Аддзелу знешніх царкоўных сувязяў мітрапаліта Смаленскага і Калінінградскага Кірыла: «З рэлігійнага пункту гледжання найвышэйшай формай дзяржаўнага праўлення з'яўляецца тэакратыя, але, уважаючы на зніжэнне ў народзе тэакратычнага пачуцця, Бог дорыць яму манархію. Іншымі словамі, манархія, саступаючы тэакратыі ў плане рэлігійнае вартасці, тым не менш з'яўляецца пастаўленаю Богам установаю. У Бібліі ні слова не гаворыцца пра дэмакратыю і парламентарызм, таму, у адрозненне ад манархіі, парламентарызм не з'яўляецца пастаўленаю Богам формай праўлення. А значыць, у рэлігійным сэнсе манархія вышэйшая за парламентарызм».

Што ж, прынамсі шчыра. Прынамсі, цяпер зразумела, адкуль у нашых святых айцоў такая стойкая непрыязь да ўсяго, што звязана з дэмакратыяй і свабодай. Дзіўна толькі, што дасведчаныя ў тэалогіі мужы выпускаюць з-пад увагі тую акалічнасць, што Госпад санкцыянаваў не проста манархію, але менавіта тую ўладу, якую хацеў мець сам народ. А другіх формаў праўлення народ тады не ведаў. Ці не слушней будзе сказаць, што богаўгоднай будзе любы грамадскі лад, усталяваны згодна з выказваннем народнае волі? Калі ж мы звернемся да Новага Запавету, то знойдзем у апостала Паўла яшчэ больш «крамольнае» сцверджанне: «...няма ўлады не ад Бога, існыя ж улады ад Бога пастаўлены».

Пад стогны пра ўціск правоў вернікаў РПЦ на справе прэтэндуе на ідэалагічную манаполію і ліквідацыю пры дапамозе дзяржавы са сваёй «кананічнай тэрыторыі» канкурэнтаў-іншадумцаў. Гаварыць навяўленым айцам Звяздоніям пра свабоду сумлення і ўвогуле няма сэнсу. «Узнікненне прынцыпу свабоды сумлення – сведчанне таго, што ў сучасным свеце рэлігія з «агульнае справы» ператвараецца ў «прыватную справу» чалавека. Сам па сабе гэты працэс сведчыць пра распад сістэмы духоўных каштоўнасцяў... Свабода сумлення канчаткова ператварае дзяржаву ў выключна зямны інстытут, які не звязвае сябе рэлігійнымі абавязаннямі. Сцверджанне юрыдычнага прынцыпу свабоды сумлення сведчыць пра страту грамадствам рэлігійных мэтаў і каштоўнасцяў, пра масавую апастасію і фактычную індыферэнтнасць да справы Царквы і перамогі над грэхам», – гаворыцца ў «Асновах сацыяльнай канцэпцыі...». Займацца «агульнаю справай» ува ўлонні ўласна Праваслаўнай царквы яе іерархам зусім не здаецца дастатковым – ім канчаткова трэба падмяць пад сябе дзяржаву.

Utro.ru

# Кошт палесцінскай інтыфады

Палесцінскае паўстанне (інтыфада), якое пачалося ў кастрычніку 2000 г., абышлося Ізраілю да пачатку новага году ў 4 мільярды даляраў, гаворыцца ў справаздачы Цэнтральнага статыстычнага ўпраўлення краіны.

Паводле сцверджанняў банкаўскіх экспертаў, сума ў 4 мільярды даляраў насамрэч моцна заніжаная, бо пры складанні справаздачы не ўлічваўся ўплыў інтыфады на скарачэнне замежных інвестыцыяў. Найбольшыя страты нясе сфера турызму – каля 2,2 мільярда даляраў. Другое паводле стратнасці месца займае будаўнічы сектар – 830 мільёнаў даляраў. Далей ідуць экспарт у палесцінскую аўтаномію і сельская гаспадарка.

**Алег КУЗЬМІН**

# Катар і КНДР – самыя мілітарызаваныя краіны

З такім сцверджаннем выступіла газета «Вашынгтон таймс», апублікаваўшы спісы краін, якія выдаткоўваюць найбольшыя (у пераліку на душу насельніцтва) сродкі на ваенныя выдаткі і ўтрымліваюць самыя шматлікія (у пераліку на душу насельніцтва) арміі.

Першы спіс ачольвае Катар – на кожнага падданага гэтай манархіі ў 1999 годзе прыпадала 2 026 даляраў ваенных выдаткаў. За ім ідуць Ізраіль (1 435 даляраў), Кувейт (1 407), Бруней (1 211), Аб'яднаныя Арабскія Эміраты (1 185), Сінгапур (1 138), Саудаўская Аравія (1 006), ЗША (1 000), Нарвегія (743) і Аман (696).

На чале другой «гарачай дзясяткі» стаіць Паўночная Карэя: у 2000 годзе 503 з кожных 10 тысяч грамадзян гэтай краіны служылі ў войску. За ёю ідуць Ізраіль (278), Аб'яднаныя Арабскія Эміраты (240), Іярданія (201), Ірак (192), Аман (189) Сірыя (187), Катар (178), Бахрэйн (172) і Тайвань.

**Іван ПАЎЛАЎ**

# Генетычна чалавек і шымпанзе надта падобныя

У генетычным дачыненні чалавек адрозніваецца ад шымпанзе прыкладна на 1,23%. Гэта паказаў першы ў свеце дослед, праведзены міжнароднай групай спецыялістаў на чале з японскім прафесарам Іясіюкі Сакаі.

За канчатковую мэту навукоўцы паставілі сабе вызначыць, што канкрэтна робіць людзей людзьмі і прынцыпова адрознівае іх ад найбліжэйшых біялагічных сваякоў.

Як абвешчана ў Токіо, удзельнікі праекту склалі першую ў свеце параўнаўчую табліцу геномаў чалавека і шымпанзе. Дзеля гэтага яны прааналізавалі 20 мільёнаў пар генаў. Было вызначана, гаворыцца ў дакладзе групы, што якраз супастаўленне гэтых звестак можа даць найкарацейшы і самы эфектыўны спосаб пазнання біялагічнае сутнасці чалавека.

Асаблівую ўвагу даследчыкі аддалі храмасоме 21 – найменшай у чалавека. Яна істотна адрозніваецца ад свайго аналага ў шымпанзе. Іх будову спецыялісты цалкам расшыфравалі да траўня мінулага году, і далейшае вывучэнне гэтае пары, на думку экспертаў, можа даць новыя значныя адкрыцці. У міжнародную групу на чале з прафесарам Сакаі з Цэнтру вывучэння генома пры японскім дзяржаўным Інстытуце Рыкен уваходзяць у асноўным біёлагі з Германіі, Кітаю і Паўднёвай Карэі. Вынікі сваіх доследаў яны збіраюцца зрабіць агульнадаступнымі праз інтэрнэт.

**Васіль ГАЛАЎНІН**

# Мюзікл «Кошкі» развітваецца са сцэнаю

Найпапулярнейшы мюзікл Лойда Вебера «Кошкі», адна з самых відовішчных і любімых брытанскай публікай тэатральных пастановак, развітваецца з лонданскай сцэнаю. Апошняе прадстаўленне будзе дадзена 11 траўня, дакладна праз 21 год ад паказу першага спектакля, паведаміў прадзюсер Кэмеран Макінташ.

За гэты час у Лондане прайшло 9 тысяч прадстаўленняў «Кошак» і больш за 8 мільёнаў чалавек атрымалі асалоду ад уражальнага шоу Вебера. Мюзікл з поспехам ішоў 18 гадоў і ў Нью-Йорку на брадвейскай сцэне, дзе быў названы «шоу-доўгажыхаром».

Пракат мюзікла па ўсім свеце сабраў больш за 2 мільярды даляраў. «Кашэчае» шоу пагледзелі каля 50 мільёнаў чалавек у 300 найбуйнейшых гарадах свету.

Толькі адна пастаноўка змагла абысці «Кошак» па доўгажыхарстве на лонданскай сцэне – спектакль, пастаўлены па п'есе Агаты Крысці «Пастка», які ідзе тут ужо 50 гадоў і ператварыўся ў рытуальны.

**Наталля ЯРАЦЭНКА**

# Першыя гарады ўзніклі на тэрыторыі Індыі

Важную гістарычную знаходку, якая сведчыць пра ўзнікненне найдаўнейшых гарадоў свету на 4 тысячы гадоў раней, чым лічылася дагэтуль, зрабілі індыйскія навукоўцы.

У раёне ўзбярэжжа Сурат, на захадзе Індыі, археолагі знайшлі фрагменты драўляных вырабаў і керамікі, рэшткі будаўнічага матэрыялу, якія адносяцца да 7500 году да нашай эры, паведаміў міністр навукі і тэхналогіяў Мурлі Манохар Джошы. «Некаторыя са знаходак адносяцца да 7500 году да нашай эры, што кажа пра існаванне вельмі старадаўняй цывілізацыі на месцы заліву Камбей, якая пазней апынулася пад вадою», – сказаў ён. Між тым цяпер лічыцца, што першыя гарады з'явіліся на планеце каля 3500 году да нашай эры на тэрыторыі сучаснага Іраку.

Акрамя таго, калі ўзрост знаходкі ў Сураце пацвердзіцца, то славутая Харапская цывілізацыя (сярэдзіна 3-га – першая палова 2-га тыс. да н.э.) ужо не будзе лічыцца самай старажытнай на тэрыторыі Індастанскага субкантыненту.

**Іван ПАЎЛАЎ**

